наша свабода

№86(173) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

15 ЖНІЎНЯ 2001 года СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



# Разам мы пераможам

*Рэгістрацыя кандыдатаў у прэзідэнты прайшла ўчора а 10 гадзіне раніцы ў Палацы Рэспублікі. Былі зарэгістраваныя 4 кандыдаты ў прэзідэнты: адзіны кандыдат ад шырокай грамадзянскай кааліцыі, старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай Уладзімір Ганчарык, лідэр аб'яднання «Рэгіянальная Беларусь» Сямён Домаш, старшыня ЛДПБ Сяргей Гайдукевіч і цяперашні кіраўнік краіны Аляксандр Лукашэнка.*


Фота Ул.ШЛАПАКА

На выхадзе кандыдатаў ад дэмакратычных сілаў сустракалі больш за 100 чалавек з вялікімі букетамі кветак. Разам з імі павіншаваць Ганчарыка і Домаша з уручэннем кандыдацкіх пасведчанняў прыйшлі іхнія калегі па «пяцёрцы» Павел Казлоўскі, Міхаіл Чыгір, Сяргей Калякін, а таксама Міхаіл Марыніч і Аляксандр Ярашук.

Што датычыць самога паседжання, то яно прайшло дастаткова спакойна. На ўрачыстым мерапрыемстве прысутнічалі вышэйшыя службовыя асобы Беларусі — прэм'ер-міністр Уладзімір Ярмошын, старшыні абедзвюх палатаў «парламента» Вадзім Папоў і Аляксандр Вайтовіч, старшыня Канстытуцыйнага суда Рыгор Васілеўскі, старшыня Вышэйшага гаспадарчага суда Уладзімір Бойка, старшыня Вярхоўнага суда Валянцін Сукала, кіраўнік прэзідэнцкай адміністрацыі Міхаіл Мясніковіч.

Апроч іх, у зале прысутнічалі старшыні абласных, раённых і гарадскіх выбарчых камісіяў. Сярод прысутных былі і кіраўнікі ініцыятыўных групаў усіх чатырох кандыдатаў у прэзідэнты.

Як паказала праверка сапраўднасці подпісаў, сабраных у падтрымку кандыдатаў, прызнаныя сапраўднымі ў Уладзіміра Ганчарыка 121.041 подпісаў, Сямёна Домаша – 160.077. Праверка дадзеных дэкларацыяў аб даходах кандыдатаў і іхніх сваякоў таксама не выявіла сур'ёзных парушэнняў.

Праблемы з'явіліся толькі ў Сяргея Гайдукевіча: апроч указанага ім сына Алега, у яго быў яшчэ адзін не ўказаны – Васіль. Аднак, як высветлілася падчас праверкі, Васіль дастаткова працяглы час жыве на тэрыторыі Германіі разам з былой жонкаю С.Гайдукевіча, і таму гэтакі факт не быў улічаны камісіяй сур'ёзнаю перашкодаю для рэгістрацыі.

Пэўныя складанасці ўзніклі і ў Уладзіміра Ганчарыка з дэкларацыяй аб даходах ягонай дачкі. Аднак іх таксама палічылі неістотнымі. Сямён Домаш і Аляксандр Лукашэнка былі зарэгістраваныя беспераашкодна.

Падчас запланаваных па рэгламенце выступаў кандыдатаў Уладзімір Ганчарык адзначыў, што «нарэшце ў беларускага народа з'явіўся выбар». Ён таксама падзякаваў людзям, якія аказалі яму падтрымку і давер.

Аляксандр Лукашэнка не хаваў свайго раздражнення. Гэта, верагодна, выкліканае тым, што ён меў жаданне, напэўна, выступаць у якасці адзінага кандыдата ў прэзідэнты. Ягоная горыч павялічвалася яшчэ і тым, што прозвішчы ўсіх кандыдатаў аб'яўляліся ў строга алфавітным парадку, і ён няземенна цягнуўся ў самым канцы спісу.

У сваёй прамове цяперашні кіраўнік дзяржавы імкнуўся прытрымлівацца напісанага на паперцы, што, зрэшты, яму ўдавалася не вельмі добра. Аднойчы ён адарваў вочы ад тэксту і аб'явіў, што «выборы прэзідэнта ў Рэспубліцы Беларусь па іншастранным шпаргалкам не пройдуць».

Калі яго выклікалі на подыум, ён дэманстратыўна адмовіўся паціснуць рукі Уладзіміру Ганчарыку і Сямёну Домашу і абмежаваўся толькі лёгкім паціскаміем з Сяргеем Гайдукевічам.

**Хартыя'97**

## Па 14.000 доляраў кожнаму

Паводле старшыні Цэнтрвыбаркама Лідзіі Ярмошынай, кожны кандыдат у прэзідэнты атрымае на выбарчую кампанію па 14.000 доляраў (2.300 мінімальных заробкаў). Нагадаем, што спачатку агульны каштарыс выдаткаў улічваў 15 прэтэндэнтаў на прэзідэнцкую пасаду. Паколькі кандыдатаў засталося ўсяго чацвёра, то на кожнага кандыдата прыпадае цяпер грошай паболей, чымсьці тое закладалася спярша.

## На допыт не з'явіўся

Старшыня КДБ Леанід Ерын не з'явіўся 13 жніўня да поміка Дзяржынскаму, што знаходзіцца насупраць гэтага ведамства, куды яго запрасілі на допыт актывісты руху «Зубр». Яны хацелі задаць яму пытанні пра зніклых людзей. «Зубраўцы» ўважаюць нез'яўленне Ерына за адно са сведчанняў віны ўладаў і збіраюцца выклікаць на падобныя допыты іншых кіраўнікоў спецслужбаў.

## Фільм пра прафсаюзны супраціў

Па краіне на відэакасетах пачаў распаўсюджвацца публіцыстычны фільм «Беларусь. Права на свабоду». Ён распавядае пра прафсаюзны супраціў цяперашняму рэжыму ў Беларусі. Стужка створаная на расійскай студыі «ART-станок» паводле заказу Польскага інфармацыйнага цэнтра КОС-КОР пры падтрымцы Міжнароднай арганізацыі працы.

## Ваша слова, таварыш вінчэсцер!

Сябра ініцыятыўнай групы адзінага дэмакратычнага кандыдата і ўдзельнік валанцёрскага сацыялагічнага апытання Аляксандр Гулевіч накіраваў у Гомельскае аддзяленне БХК заяву. Як падае Радыё «Рацыя», у ёй гаворыцца, што спроба пагутарыць на тэму прэзідэнцкіх выбараў у мікрараёне Навабеліца ледзьве не скончылася для яго трагічна. Выслухаўшы пытанне, адзін з жыхароў запрасіў А.Гулевіча ў двор, дзе выхапіў вінчэсцер і стрэліў у паветра.

## Выставачная галерэя ў Дудутках

У музейна-вытворчым комплексе «Дудуткі», што пад Мінскам, напрыканцы жніўня адкрыецца выставачная галерэя. У ейную экспазіцыю ўвойдуць творы, сабраныя падчас экспедыцыйных вандровак па Беларусі супрацоўнікамі музея.

## Здарэнне ў мінскім заапарку

Днямі ў мінскім заапарку здарыўся трагічны выпадак. Падчас кармлення жывёлаў з клеткі выбегла мядзведзіца і кінулася на двух супрацоўнікаў заапарка. Адна жанчына пацярпела і знаходзіцца зараз у шпіталі. Мядзведзіцу застрэлілі выкліканыя на месца здарэння ратавальнікі.

# Вандалы вяртаюцца ў Курапаты

У ноч з 12 на 13 жніўня зноў апаганены мемарыяльны комплекс памяці ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў 1937-1941 гадоў ва ўрочышчы Курапаты ў сталіцы Беларусі.

Апошні перад гэтым акт вандалізму тут быў учынены сёлета 22 ліпеня. Тады ўлады па сваёй звыкдзёнцы паставіліся да гэтага абыякава, і крымінальная справа па дзеяннях невядомых злачынцаў узбуджаная не была. У ноч на 22 ліпеня яны скінулі гранітную пліту з надпісам «Ад народа ЗША – беларускаму народу для памяці» з помніка, падараванага ў 1994 годзе падчас візіту ў Беларусь амерыканскага прэзідэнта Біла Клінтана.

Цяпер помнік наўмысна зруйнаваны, паламаны нагэтулькі старанна, што аднаўленню не падлягае. Пліта і мармуровая лаўка, на якой яна трымалася, разбітыя ўшчэнт. Апрача таго, павалена мемарыяльная дошка на ўваходзе ў прысады Курапатаў. 13 жніўня парушаны помнік яшчэ быў на месцы, а 14 жніўня ён знік.

Заканчэнне на стар.4


Фота Ул.ШЛАПАКА

Варвары разбілі памятны знак пры ўваходзе ў Курапацкі лес

# Уладзімір Ганчарык – адзіны кандыдат

*Цырымонія падпісання пагаднення аб вылучэнні адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад аб'яднанай грамадзянскай кааліцыі адбылася ў мінулы панядзелак у Доме ветэрана. Самыя розныя палітычныя сілы аб'ядналі свае намаганні, каб адхіліць ад улады Аляксандра Лукашэнку дэмакратычным шляхам і аднавіць дэмакратыю ў Беларусі. Змагацца за перамогу на выбарах будзе старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай Уладзімір Ганчарык.*

### Абавязкі кааліцыі

Шырокая грамадзянская кааліцыя, якая прадстаўляе вельмі шырокі палітычны спектр – ад Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» да Партыі камуністаў Беларускай, – бярэ на сябе абавязак «мабілізаваць увесь свой рэсурс, што маецца ў распараджэнні, для аказання ўсямернай падтрымкі адзінаму кандыдату з мэтай перамогі на выбарах». Кандыдат у прэзідэнты, «дублёр» Уладзіміра Ганчарыка Сямён Домаш і былыя кандыдаты ў прэзідэнты Павел Казлоўскі, Сяргей Калякін, Міхаіл Марыніч, Міхаіл Чыгір і Аляксандр Ярашук аб'ядноўваюць свае перадвыбарныя штабы і іншыя структуры ў перадвыбарны штаб адзінага кандыдата.

Пасля афіцыйнай рэгістрацыі Уладзіміра Ганчарыка ў якасці кандыдата ў прэзідэнты Сямён Домаш мусіць зняць сваю кандыдатуру на карысць аб'яднанага кандыдата. Узамен ён становіцца кіраўніком Палітычнага Савета перадвыбарнага штаба, а калі Уладзімір Ганчарык стане прэзідэнтам, атрымае пасаду прэм'ер-міністра ў новым урадзе, які будзе мець больш шырокія паўнамоцтвы.

Пагадненне падпісанае Уладзімірам Ганчарыкам, Сямёнам Домашам, Паўлам Казлоўскім, Сяргеем Калякіным, Міхаілам Марынічам, Міхаілам Чыгіром і Аляксандрам Ярашуком. Свае подпісы паставілі таксама Вінцук Вячорка (БНФ «Адраджэньне»), Анатоль Лябедзька (Аб'яднаная грамадзянская партыя), Станіслаў Шушкевіч (Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада), Мікола Статкевіч (Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя «Народная Грамада»), Валянціна Палевікова (Беларуская партыя жанчынаў «Надзея»), Аляксандр Бухвостаў (Беларуская партыя працы), Алег Грамыка (Беларуская партыя «Зялёны свет») і Міхаіл Фрыдлянд (Беларуская экалагічная партыя).

Ад грамадскіх рухаў і арганізацыяў пагадненне падпісалі Васіль Лявонаў (рух «За новую Беларусь»), Алесь Мілінкевіч (недзяржаўная арганізацыя «Рэгіянальная Беларусь») і Андрэй Саннікаў (Хартыя'97).

Заканчэнне на стар.3

**НАДВОР'Е**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»** 1455

АГІТАЦЫЯ

## Цэнзура ў пад'ездах і на слупах

Толькі «Гардаведка» камунальнай службы Брэста, паводле адпаведнага рашэння гарвыканкама, атрымала дазвол на размяшчэнне агітацыйных матэрыялаў прэзідэнцкай выбарчай гонкі на 17 рэкламных тумбах і стэндах. Накont выкарыстання вітрынаў магазінаў, кінатэатраў, інфармацыйных шчытоў прадпрыемстваў і ўстановаў, то наўпростай забароны нібыта не існуе. Але спрактыкаваныя чыноўнікі «ўкруцілі» ў свой дакумент як мінімум дзве апаратныя штучкі персанальнага адбору плакатаў і ўлётак — гэта абавязковы дазвол на іх размяшчэнне ад кіраўніка і магчымасць здзіраць наклеенае з прычыны ледзь не ягонага адмоўнага ўплыву на бляск сонца ў шкле. І зусім «безгалосымі» застануцца ў Брэсце пад'езды, агароджы і слупы, бо ніякіх друкаваных сродкаў агітацыі на іх гарвыканкам не дазваляе.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

ТРАНСПАРТ

## Цягнік даражэйшы за таксі

За 7 кіламетраў шляху на электравіку ад станцыі «Брэст-Цэнтральны» да першай польскай станцыі «Тэрэспаль» кошт праезду зараз падвышаны з 3.009 беларускіх рублёў да 5.165. Гэта беспрэцэдэнтны пакуль выпадак такой дарагоўлі на Беларускай чыгунцы. У горадзе таксісты менш бяруць за падвоз на большую адлегласць.

На жаль, не ўсе з брэсцкіх «чаўнакоў» і «спіртавозаў», якіх збіраецца да 1.200 чалавек на кожны з чатырох дзённых рэйсаў да Тэрэспаля, ведаюць, што лукашэнкаўскі ўказ №285 ад 19.05.1999 г. «Аб некаторых мерах па стабілізацыі цэнаў (тарыфаў) у Рэспубліцы Беларусь» узаконьвае своеасаблівыя паборы на так званай «дарозе жыцця». Атрымліваецца, што значная армія беспрацоўных сама вымушаная карміцца на дробным перапродажу ў Польшчы і, як гаворыцца, адшпільваць са сціплых прыбыткаў на рэкецірскія апетыты дзяржаўнай структуры.

**Галіна БАРАВАЯ**

# Яшчэ адзін іск супраць БТ

Жыхар горада Барысава, член Аб'яднанай грамадзянскай партыі Валерый Кабак 13 жніўня накіраваў скаргу ў праваабарончы цэнтр «Вясна», а таксама падаў іск у суд да Беларускага тэлебачання і вядучага праграмы «Рэзананс» Аляксандра Зімоўскага. Напярэдадні такі ж іск быў пададзены ад АГП і яе лідэра Анатоля Лябедзькі. Нагадаем, што па нацыянальным беларускім тэлеканале, у прыватнасці, у праграме «Рэзананс» былі паказаныя сюжэты аб тым, быццам бы адзін з актывістаў АГП з горада Барысава за плату ў 500 долараў ЗША абяцаў тром членам барысаўскага аддзялення гэтай партыі дапамогу ў атрыманні палітычнага прытулку ў адной з заходніх краінаў. Былі названыя прозвішчы трох грамадзянаў: Міхаіла і Святланы Касабуцкіх, а таксама Валерыя Кабака.

У заяве, пададзенай у праваабарончы цэнтр «Вясна», Валерый Кабак піша: «Тое, што было сказана ў мой адрас па Беларускім тэлебачанні, — нібыта партыя АГП абавязалася за 500 долараў дапамагчы ажыццявіць палітычную эміграцыю, — лічу паклёпам. Я не маю да гэтага ніякага дачынення». Па словах Кабака, у час паказу перадачы ён знаходзіўся на адпачынку і не змог адразу адрэагаваць на тое, што адбылося. Калі ж ён выразшыў гэта зрабіць і даў інтэрв'ю Радыё «Свабода», яму на кватэру патэлефанаваў невядомы і стаў пагражаць вялікімі непрыемнасцямі, калі ён вырашыць абвергнуць інфармацыю Беларускага тэлебачання.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

ЛЮСТРАФАКТ



Фота IREX/ProMedia

Дажынкі ў Ждановічах

## У апале нават «Дэтэктыў»

«Беларускія ўлады пераследуюць газету «Дэтэктыў». Такую заяву зрабіў галоўны рэдактар гэтага выдання Уладзімір Кажэўнікаў.

Газета «Дэтэктыў» была заснаваная ў 1990 годзе Мінскай штабкватэрай Савецкай асацыяцыі дэтэктыўнага і палітычнага рамана з ініцыятывы Юліяна Сямёнава, вядомага сваім Штырліцам.

Як цвердзяць у рэдакцыі газеты, пад адмысловымі рубрыкамі «Каго ўтрымліваем?» і «Правы чалавека» яна крытыкавала ўлады за перашкоды стварэнню грамадскіх аб'яднанняў, доўгія затрымкі разгляду зваротаў грамадзянаў, пісала пра парушэнні закона праваахоўнымі органамі. У прыватнасці, пра хабарніцтва пракурораў розных узроўняў. Усяго «Дэтэктыў» выкрыў каля 200 падобных выпадкаў і рабіў адмысловыя запыты па гэтай інфармацыі.

Але рэакцыя была не такой, як таго чакалі ў рэдакцыі газеты. Галоўнаму рэдактару выдання неаднаразова званілі ананімы з пагрозамі і патрабаваннямі спыніць крытычныя артыкулы. У 1997 годзе невядомыя нават здзейснілі замах на ягонае жыццё. Зараз супраць Уладзіміра Кажэўнікава ўзбуджаная крымінальная справа па факце нібыта невыканання судовага рашэння – маўляў, «Дэтэктыў» нясвоечасова апублікаваў адно абвяржэнне. Але рэч у тым, што газета выходзіць усяго толькі штомесяц, прычым, бывае, нерэгулярна. У.Кажэўнікаву пагражае вялікі штраф ці пазбаўленне права займаць пасаду галоўнага рэдактара і займацца журналістыкай. Гэтая справа будзе разглядацца ў судзе Цэнтральнага раёна Мінска 15 жніўня.

**Кірэй МАНУЙЛА**

## Пакаралі за ветлівасць

10 жніўня 2001 года ў Кастрычніцкім судзе Віцебска адбыўся разгляд справы мастака-кераміста Андрэя Капорыкава, які 20 ліпеня на заключным канцэрце «Славянскага базару» з ружамі і бел-чырвона-белым сцягам вітаў беларускіх выканаўцаў.

Адміністратыўная справа маладафронтаўца разглядалася па арт. 156 КаАП (дробнае хуліганства ). Абарона настойвала, што ўчынак Капорыкава трэба расцэньваць як эмацыйнае вітанне беларускіх выканаўцаў, якое не выходзіць за межы звычайных паводзінаў маладых людзей на канцэртах. Але суддзя Казлоў вынес рашэнне аб пакаранні А.Капорыкава штрафам у памеры 1 мінімальнага заробку (7.500 рублёў). Суддзя не пагадзіўся з прапановай абароны вынесці папярэджанне. На гэтым этапе адміністратыўнага разбіральніцтва скончаны. А. Капорыкаў мае намер падаць іск аб кампенсацыі маральных і матэрыяльных стратаў міліцыянтамі, якія пры затрыманні пашкодзілі адзенне і моцна збілі яго. Адначасова адасланая скарга на перавышэнне мераў фізічнага ўздзеяння з боку «групы захопу» на адрас управы ўнутраных справаў аблвыканкама.

**Праваабарончы цэнтр «Вясна» — Віцебск**

## «Вертыкаль» праводзіць нарады па выбарах

З заявай, у якой утрымліваецца патрабаванне спыніць умяшальніцтва Івацэвіцкага райвыканкама ў працу выбарчых камісіяў, у Брэсцкую абласную выбарчую камісію звярнуўся назіральнік ад Брэсцкага абласнога аддзялення грамадскага аб'яднання «Праваабарончы цэнтр «Вясна» Уладзімір Малей.

У сваім патрабаванні ён абапіраецца на паведамленне ў раённай газеце «Івацэвіцкі веснік», дзе гаворыцца аб тым, што старшыня Івацэвіцкага райвыканкама правёў нараду па арганізацыйных пытаннях выбараў, у якой узялі ўдзел старшыні і сакратары ўчастковых камісіяў, старшыні і сакратары гар- і сельвыканкамаў. На нарадзе, як піша журналіст івацэвіцкай газеты, была заслуханая інфармацыя кіраўнікоў розных службаў раёна, якія ўваходзяць у склад рабочай групы па падрыхтоўцы і правядзенні прэзідэнцкіх выбараў.

На думку У.Малея, з гэтай газетнай інфармацыі вынікае, што Івацэвіцкі райвыканкам стварыў незаконнае фарміраванне — рабочую групу па падрыхтоўцы і правядзенні прэзідэнцкіх выбараў. З гэтай прычыны назіральнік просіць праверыць дакладнасць выкладзеных у газеце фактаў і спыніць умяшальніцтва ў працу камісіяў прадстаўнікоў гэтак званай рабочай групы па падрыхтоўцы і правядзенні прэзідэнцкіх выбараў.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

ЮСТЫЦЫЯ

## Суд над амерыканцам

Следчае ўпраўленне Камітэта дзяржаўнай бяспекі рэспублікі завяршыла следства па крымінальнай справе у адносінах да грамадзяніна ЗША, дырэктара прадстаўніцтва «*ACCELS*» Чарльза Даніэла Перыела. Ён быў затрыманы за незаконны абарот наркотыкаў.

Як паведаміў БелаПАН начальнік Цэнтра інфармацыі і грамадскіх сувязяў КДБ Беларусі Фёдар Котаў, справа будзе разглядацца ў судзе Цэнтральнага раёна Мінска. Замежны грамадзянін абвінавачваецца ва ўчыненні злачынстваў, прадугледжаных ч.2 арт. 328 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь «Незаконны абарот наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў і прэкурсораў», ч.2 арт. 331 «Схіленне да ўжывання наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў і іх прэпаратаў» і ч.2 арт. 332 «Арганізацыя або ўтрыманне прытонаў для ўжывання наркатычных ці іншых адурманьваючых сродкаў».

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

## Аўтобусы толькі свае

З гэтага часу ў Беларусі за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту для ажыццяўлення пасажырскіх перавозак унутры краіны мусяць набывацца аўтобусы толькі айчыннай вытворчасці. Такое ўказанне ўтрымліваецца ў пастанове Савета міністраў № 1117 «Аб некаторых захадах па пашырэнні перавозак пасажыраў аўтобусамі айчыннай вытворчасці».

Гэтым дакументам урад таксама забараніў аблвыканкамам і Мінскаму гарвыканкаму набываць за кошт сродкаў транспартнага збору і іншых сродкаў мясцовых бюджэтаў аўтобусы імпартнай вытворчасці, якія былі ў эксплуатацыі. Міністэрству фінансаў, іншым органам дзяржаўнага кіраўніцтва пры падрыхтоўцы праекта закона «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 2002 год» даручана прадугледзець выкарыстанне транспартнага збору ў частцы сродкаў, якія накіроўваюцца на абнаўленне аўтобуснага парка, на набыццё аўтобусаў, што выпрабляюцца ў Беларусі.

Як зазначаецца ў пастанове, дакумент прыняты ў мэтах павышэння якасці абслугоўвання пасажыраў, а таксама далейшага развіцця прадпрыемстваў краіны, што ажыццяўляюць выпуск аўтобусаў.

**Аляксей АРЭШКА**



РЭКЛАМА

## Ці ўлагодзяць канфлікт НТВ і БТ?

ТАА «Відэа Інтэрнэшнл» і Беларускае тэлебачанне могуць дасягнуць мiравога пагаднення па пытанні размяшчэння рэкламы ў эфіры расійскай тэлекампаніі НТВ. Як паведаміў БелаПАН дырэктар ААТ Святаслаў Тапеха, гэта звязанае з перамовамі, якія праходзяць зараз паміж кіраўніцтвам ягофірмы і новым кіраўніком Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі Беларусі Валерыем Скварцовым. «Мы заклікаем БТ прызнаць неправамоцнасць сваіх дзеянняў і спыніць перакрыццё нашых рэкламных блокаў сваімі. У адказ мы гатовы адклікаць фінансавыя прэтэнзіі, якія ўзніклі ў выніку стратаў ад дзейнасці беларускага боку. Калі перамовы завершацца паспяхова, то ў пятніцу мы падпішам мiравое пагадненне, калі не — суд будзе працягнуты», — сказаў Тапеха і падкрэсліў, што Скварцоў больш схільны да дыялога, чым яго папярэднік на гэтай пасадзе Віктар Чыкін.

Напомнім, што, сёлета пачынаючы з 3 лютага ролікі ТАА «Відэа Інтэрнэшнл», якое займаецца размяшчэннем рэкламы ў эфіры НТВ, сталі перакрывацца рэкламнай прадукцыяй Беларускага тэлебачання (гэта не закранула толькі сістэмы спадарожнікавага тэлебачання «Космас-ТВ»). Па сцвярджэнні кіраўніцтва ТАА, гэта адбылося па ўказанні першага намесніка старшыні Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Ягора Рыбакова, які ўзгадніў свае дзеянні ў Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі. «Відэа Інтэрнэшнл» падала іск у Вышэйшы гаспадарчы суд, у якім патрабавала спыніць перакрыццё рэкламных блокаў і пакрыць страты ў памеры 56,5 млн. беларускіх рублёў.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

# Там, где Лукашенко, заправляет его охранка

## *Даже на заседании Центризбиркома*


Фота Ул.ШЛАПАКА

Хотя посвященное регистрации кандидатов в президенты заседание Центризбиркома специально провели во Дворце Республики, чтобы места хватило всем, журналисты опять были ущемлены в правах.

Прессе отвели место в конце зала, вдали от транслировавших звук динамиков, поэтому журналисты должны были с диктофонами бегать туда со своих мест. А перед корреспондентами разных СМИ посадили чиновников, чьи головы мешали наблюдать за происходящим.

Весь зал был усеян сотрудниками президентской службы безопасности, а также пресс-службы, которые и заправляли всем процессом. Личный телеоператор господина Лукашенко внаглую встал перед чиновниками, в результате чего даже те не смогли видеть четырех кандидатов в президенты. На журналистское замечание, что «личник» не прозрачный, и просьбу переместить его туда, где стояли остальные телеоператоры, ни он, ни другие охранники Лукашенко не отреагировали.

Таким образом, заседание ЦИК превратилось в очередное мероприятие с участием Лукашенко. Удивительно, как охранники пустили туда господ Гайдукевича, Гончарика и Домаша. Ведь именно они представляют собой наибольшую опасность для Лукашенко.

**Агентство «Ю.С.Ньюс» (www.yusnews.com)**

# Уладзімір Ганчарык – адзіны кандыдат

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

### Абавязкі адзінага кандыдата

Паводле падпісанага пагаднення аб узаемных абавязках адзінага кандыдата і шырокай грамадзянскай кааліцыі Уладзімір Ганчарык абавязваецца, калі пераможа на выбарах, сфарміраваць урад, паставіўшы на чале яго Сямёна Домаша і перадаць ураду частку сваіх паўнамоцтваў.

Адзіны кандыдат абавязваецца правесці дэмакратычныя парламенцкія выбары і прадставіць на зацвярджэнне ў якасці прэм'ер-міністра таго ж Сямёна Домаша.

Уладзімір Ганчарык таксама ўзяў на сябе шэраг абавязкаў у галіне дзяржаўнага будаўніцтва. У выпадку сваёй перамогі ён бярэцца гарантаваць аднаўленне дэмакратычнай сістэмы ўлады ў Беларусі, якая будзе базавацца на прынцыпах падзялення ўладаў, вяршэнства закона і парламентарызму, абмежаванні прэзідэнцкіх паўнамоцтваў, незалежнасці судовай улады і свабоды сродкаў масавай інфармацыі. Новаабраны парламент, як і органы мясцовага самакіравання, будуць мець права кантраляваць бюджэт краіны, а таксама ўсе іншыя дзяржаўныя фонды.

Адзіны кандыдат абавязваецца ўзяць курс на «забеспячэнне дынамічнага развіцця эканомікі, уздым жыццёвага ўзроўню насельніцтва».

Асобным пунктам пагаднення прапісвае, што Уладзімір Ганчарык пасля перамогі на выбарах мусіць забяспечыць інтэграцыю Беларусі ў агульнаеўрапейскую палітычную, эканамічную і гуманітарную прастору. Але пры гэтым ствараць спрыяльныя ўмовы для развіцця нацыянальнай культуры, мовы, традыцыяў і ўжытку нацыянальнай гістарычнай сімволікі беларускага народа.

### Яшчэ адзін крок да перамогі

Падпісанне пагаднення зацягнулася на некалькі гадзінаў. Увесь гэты час сямёра прэтэндэнтаў на высокую дзяржаўную пасаду вялі вельмі цяжкія пермовы. У прыватнасці, старшыня Партыі камуністаў Беларускай Сяргей Калякін актыўна выступаў супраць пункта аб прэм'ерстве Сямёна Домаша. Але ў рэшце рэшт пагадненне было знойдзенае. Тэкст пагаднення зачытала перад аўдыторыяй у Доме ветэранаў вядомая дыктарка Беларускага тэлебачання Зінаіда Бандарэнка.

Палітыкі, што падпісалі пагадненне, выступілі з прамовамі, у якіх падтрымалі вылучэнне Уладзіміра Ганчарыка адзіным кандыдатам і заклікалі ўсе іншыя палітычныя партыі і грамадскія аб'яднанні далучыцца да іх.

У сваю чаргу адзіны кандыдат падзякаваў усім палітычным сілам, што падтрымалі яго, і выказаў упэўненасць у сваёй перамозе.

**Міхась КАРПОВІЧ**

## Палітычныя лідэры каментуюць пагадненне

«Вялікім скачком наперад» назваў у гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН падпісанае 13 жніўня пагадненне паміж адзіным кандыдатам ад дэмакратычных сілаў і шырокай грамадзянскай кааліцыяй лідэр Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) Анатоль Лябедзька.

Паводле ягоных словаў, упершыню на постсавецкай прасторы зробленая паспяховая спроба аб'яднаць людзей з рознымі палітычнымі пазіцыямі і платформамі. «Дзеля Беларусі, дзеля беларускага народа яны пераступілі праз уласныя амбіцыі, устрымаліся ад розных спакусаў, — адзначыў А.Лябедзька. — Уладзімір Ганчарык і Сямён Домаш поўнасцю вытрымалі свае дамоўленасці і ні на ёту не адышлі ад тэксту, які яны падпісалі яшчэ ў суботу, 11 жніўня. Крыху цяжэйшай была сітуацыя ў рамках дагавора паміж Ганчарыкам і Домашам, з аднаго боку, і шырокай грамадзянскай кааліцыяй — з другога. Тут некаторыя паставілі пад сумненне звязку Ганчарык—Домаш. Але такога пункту гледжання прытрымлівалася абсалютная меншасць тых, хто ўдзельнічаў у перамовах. Наадварот, астатнія мяркуюць, што толькі гэтай звязкай можна ўзяць вяршыню пад назвай «пік перамогі».

Намеснік старшыні Партыі БНФ Юрый Хадыка сказаў карэспандэнту БелаПАН, што пасля падпісання пагаднення ён зведвае дваістае пачуццё. З аднаго боку, ён вельмі задаволены, што вядучыя палітыкі пераступілі праз уласныя амбіцыі дзеля адной мэты. З другога — даволі крыўдна, што такі дакумент падпісаны вельмі позна. «Вы ўявіце сабе, што было б, каб усе гэтыя сілы аб'ядналіся ў адну на пару месяцаў раней, — мяркуе Ю.Хадыка. — Эфект ад такой акцыі быў бы несуразмерна большым».

**Уладзімір ГЛОД**

# Ці ў Гаагу, ці ў Ізраіль

## *Ізраіль гатовы прыняць Аляксандра Лукашэнку*

Часовая павераная ў справах Ізраіля ў Беларусі Эці Кацір-Касласі заявіла падчас прэс-канферэнцыі ў Мінску 13 жніўня, што яе краіна гатовая прыняць Аляксандра Лукашэнку на сваёй тэрыторыі – як турыста. «Мы не супраць турызму. Ізраіль рады вітаць турыстаў з усяго свету, і мы не хацелі б ставіць такія адносіны да турыстаў у залежнасць ад унутраных стасункаў паміж беларускімі палітыкамі», — заявіла яна.

Як вядома, на мінулым тыдні беларускі кіраўнік заявіў падчас сустрэчы з журналістамі, што калі прайграе прэзідэнцкія выбары 9 верасня, то ўцячэ ў Ізраіль.

Гэта даволі новы маршрут для адступлення беларускага кіраўніка. Раней яму абяцалі толькі падарожжа ў прыгожы галандскі горад Гаагу і даволі працяглы «адпачынак» там.

Адзінае, што кепска тут – вайна з палесцінцамі. Яны апошнім часам учыняюць усё больш тэрарыстычных актаў, і ніхто не застрахаваны ад магчымасці стаць ахвярай аднаго з іх. Дарэчы, спадарыня Эці Кацір-Касласі асобна адзначыла: ахвярамі тэрактаў на тэрыторыі Ізраіля становяцца, сярод іншых, і былыя савецкія грамадзяне. Напрыклад, у выніку выбуху, арганізаванага тэрарыстам-смяротнікам у цэнтры Іерусаліма 9 жніўня, загінулі сем чалавек, якія раней жылі ў Грузіі і Расіі.

Па словах Э. Кацір-Касласі, штодня ў Ізраілі адбываецца ў сярэднім 22 тэракты. Палесцінскія тэрарысты выкарыстоўваюць любую зброю – камяні, выбухоўку, аўтаматы, гарматы і ракеты. Пры гэтым, як паведамляюць некаторыя крыніцы, пастаўкай зброі тэрарыстам займаецца і Беларусь. Патаемна, натуральна.

Таму нельга не пазайздросціць мужнасці і адвазе А.Лукашэнкі. У гэты цяжкі для Ізраіля момант беларускі кіраўнік збіраецца кінуцца ў полымя араба-ізраільскага канфлікту. Як былы Галоўнакамандуючы Узброенымі сіламі Беларусі, ён можа стаць вельмі каштоўным кансультантам для абодвух варожых бакоў.

Але чым бліжэй 9 верасня, тым больш верагодна, што беларускі кіраўнік будзе шукаць яшчэ больш новыя і нечаканыя шляхі для адступлення. Зямля вялікая, можа ён і знойдзе, нарэшце, краіну па сваім гусце.

**Ірына СТАРЦАВА**

**ЗУБР**

## Подросток избит милиционером

Человек в штатском схватил 13-летнего Андрея Янушевского, когда тот клеил «зубровскую» наклейку. Мужчина схватил его за голову и с размаху ударил парня о близстоящее дерево. В полусознательном состоянии Андрей вырвался и убежал. Только поздно вечером он вернулся домой. Парень не помнит, где он находился все это время.

Как стало известно позже, этот мужчина — сотрудник борисовского ОБЭПа Олег Валерьянович Каптур.

## Акция на концерте в поддержку союза России и Беларуси

На прошедших выходных Могилевская областная организация Белорусского патриотического союза молодежи организовала на стадионе «Спартак» бесплатный концерт «Молодежь в поддержку союза России и Беларуси».

Наведались на этот концерт и активисты движения сопротивления ЗУБР, а также члены Молодого Фронта. Некоторых из них не пустили на концерт, несмотря на то, что у них имелись приглашения. У одного несовершеннолетнего зубра на выходе сорвали значок. Еще десять человек были задержаны на стадионе за то, что раздавали молодым людям, пришедшим на концерт, спецвыпуск газеты НАША СВАБОДА, посвященный пропавшим людям, а также вывешивали национальный флаг.

## Міліцыянты ў Маладзечне ўжываюць катаванні

Два актывісты руху супраціву ЗУБР былі затрыманыя ноччу 9 жніўня ў Маладзечне за тое, што клеілі налепкі. Зміцер Міцкевіч ды Юрась Смятанка былі адвезеныя ў міліцэйскі пастарунак. У аддзяленні на хлопцаў аказваўся ціск. Міліцыянт, чыё імя невядома, ціснуў хлопцам на шыі, каб тыя распавялі, хто ім даў налепкі. Аднак не дачакаўшыся «праўды», міліцыянты выклікалі бацькоў хлопцаў, пасля чаго тыя былі адпушчаныя дахаты.

## Кнігі пра Леніна — на беларускую гісторыю

11 жніўня ў віцебскім скверы ля пляца Леніна моладзь з руху супраціву «Зубр» распачала акцыю абмену кніг часоў развітога сацыялізму, якія страцілі маладога чытача, на беларускія выданні па гісторыі краіны, нацыянальным мастацтве і на творы вялікага земляка Уладзіміра Караткевіча. Падобныя акцыі, як заяўляюць зубры, ёсць прэлюдыяй да абмену, які адбудзецца 9 верасня: у гэты дзень моладзь збіраецца змяніць старога прэзідэнта на новага.

# Вандалы вяртаюцца ў Курапаты

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

Куды падзеліся ягоныя паламаныя часткі – невядома. Мажліва, іх забралі праваахоўныя органы ў якасці наяўнага доказу для следства па меркаванай крымінальнай справе. Але зважаючы на тое, як цяперашнія ўлады рэагавалі на ўсе фашыстоўскія вылазкі ў Курапатах, вельмі верагодна, што справа супраць злачынцаў не будзе заведзеная. А разбураную мемарыяльную пліту прыбралі з Курапацкага лесу, каб усё выглядала так, быццам нічога не здарылася, без слядоў нахабнага злачынства, каб нішто не нагадвала, што тут наогул некалі вынішчалі сотні тысяч людзей.

Серыя актаў вандалізму ў гэтых жалобных мясцінах – вынік патурання да такіх дзеянняў з боку ўладаў. Вядома, як улады апошнімі гадамі ўпарта і цынічна трубяць, што масавыя пахаванні ў Курапатах – гэта зусім не ахвяры рэпрэсіяў сталінскай сістэмы. Разбурэнне помнікаў і знакаў памяці – гэта цынічная спроба прадэманстраваць тэндэнцыю перагляду гісторыі ў лукашэнкаўскія часы. Вось і прыязджаюць у Курапаты нелюдзі, пазбаўленыя памяці, розуму, сумлення, каб чорнай справай здзяйсняць такую ўхваленую ўладамі тэндэнцыю.



Высечка лесу ў Курапатах

Фота Ул. ШЛАПАКА

У рэчышчы такога стаўлення да ахвяраў сталінізму ляжыць і праект пашырэння Мінскай кальцавой аўтадарогі на ўчастку каля ўрочышча Курапаты. Не дзіўна, што ўлады абсалютна праігнаравалі зварот грамадскасці адмовіцца ад гэтай несумленнай задумы. Прыняты план рэканструкцыі дарогі прадугледжвае, што павелічэнне палосаў кальцавой дарогі будзе праводзіцца якраз у бок мемарыяльнага комплексу «Курапаты», у бок брацкіх магілаў. Хоць яшчэ з 1993 года існуе адмысловы праект, паводле якога кальцавая дарога ў гэтым раёне пускаецца ў абход Курапатаў. Ведае пра гэты праект і Аляксандр Лукашэнка. Праязджаў ён нядаўна і па кальцавой дарозе каля Курапатаў, але дарожнікам аддадзены загад весці рэканструкцыю МКАД, ссоўваючы яе на тэрыторыю месца масавых расстрэлаў людзей карнікамі НКУС. Некаторыя падрыхтоўчыя работы тут ужо вядуцца, у прыватнасці, ідзе высечка дрэваў. Рэжуць дрэвы не пасохлыя, а вялізныя і жывыя аліны. Літаральна так рэжуць па жывому памяць пра тых, хто атрымаў кулю ў чэрап з нкусаўскага нагана ў гэтых мясцінах 1 кастрычніка 1937 года, калі тут пачаліся масавыя пакаранні невінаватых людзей праз расстрэл. Першымі паклалі ў брацкія магілы каля 1.000 святароў з мінскіх ды іншых беларускіх цэркваў і касцёлаў. Тут было адабранае жыццё ў мноства інтэлігентаў, рабочых, сялянаў, у пяці тысяч ваеннапалонных 1939 года, а разам Курапаты прынялі ў сваю зямлю 250 тысячаў ахвяраў. І вось тут на ўчастку кальцавой дарогі ўжо з'явіліся будаўнічыя машыны і рабочыя.

Мы – адзіная краіна ў Еўропе, дзе па магілах людзей, вынішчаных у часы сталінскага генацыду, будзе пракладзены асфальт, дзе машыны будуць грымець па апошнім месцы прыстанку забітых бальшавіцкай уладай. Сённяшняя ўлада жадае вычысціць з памяці людзей успамін пра сталінскі генацыд, якім абярнулася для беларусаў жыццё ў савецкай імперыі. Бо рэпрэсіі не сканчаюцца і сёння. Іх памеры толькі зменшыліся, але закладзеная бальшавіцкая традыцыя вырашаць адносіны гвалтам і рэпрэсіямі засталася і актыўна ўжываецца. Гэта выяўляецца і сёння – напрыклад, у нежаданні ўладаў правесці расследаванне па справах зніклых людзей, забітых і невядома дзе пахаваных. Таму і з'яўляюцца ў Курапатах неасталінскія нелюдзі з ламамі і сякерамі і руйнуюць народную святыню. Маштаб гэтых акцыяў, іх бесперапыннасць, а таксама беспакаранасць тых, хто ўсё гэта робіць, сведчаць пра тое, што такія дзеянні адмыслова арганізаваныя і заказаныя.

Беларусы не будуць трываць гэткі кашчунскі здзек, брудныя боты, крывыя ашчэры і крывавыя рукі. Злачынцам і тым, хто ім патурае, у рэшце рэшт давядзецца адказваць за ўсе нялюдскія ўчынкі. Гэтаму мусіць прыйсці і прыйдзе канец! І вельмі хутка!

**Кірыла ПАЗЬНЯК**



Фота Ул. ШЛАПАКА

Зруйнаваны памятны знак ад амерыканскага народа



Ён жа, здымак з архіва

# Израиль провел трехчасовую войну

*Израильская армия развернула против Палестинской автономии активные боевые действия. После того как в понедельник израильские танки блокировали сектор Газа, отрезав территорию от Египта, армейские подразделения штурмовали город Дженин на Западном берегу реки Иордан. Специалисты прогнозируют, что в ближайшие полгода Ближний Восток охватит полномасштабная война.*



Войсковая операция началась в 0.30 по местному времени. Танки пересекли границу Палестинской автономии в северной части города. Одно это уже является нарушением Ословских соглашений, которыми была закреплена неприкосновенность так называемой зоны «А» для израильских подразделений. Впрочем, со времени начала интифады действия армии не раз вступали в противоречие с этим договором. В захвате Дженина участвовали от 10 до 40 танков, около 400 солдат и несколько бульдозеров. Как правило, строительную технику израильская армия использует, чтобы срывать земляные палестинские укрепления.

Танки окружили город. После того как маневр был завершен, израильтяне захватили штаб личной гвардии Ясира Арафата Force 17 и разрушили один из полицейских постов. В центре города солдат стали обстреливать арабские боевики. Жители окрестных еврейских поселений слышали звуки интенсивной перестрелки и орудийные залпы. Над городом кружили армейские вертолеты.

С израильской стороны потерь нет, а палестинские источники сообщают, что под пулями погибли двое палестинских полицейских и двое боевиков «Танзима».

Операция продолжалась около трех с половиной часов. В 4.00 по ближневосточному времени танки вышли за городскую черту, однако блокада Дженина продолжается до сих пор. Власти ПА регулярно распространяют среди местного населения призывы сопротивляться «израильским оккупантам».

Дженин никогда не был спорной территорией и всегда находился под контролем палестинцев, поэтому руководство ПА истолковало действия израильтян однозначно. Начальник департамента информации Ясер Абед Рабо забил тревогу, расценив события минувшей ночи как объявление войны Палестине. В ООН срочно была направлена депеша с рапортом о захвате Дженина и требованием немедленно ввести в зону арабо-израильского конфликта миротворческий контингент. Напомним, что премьер-министр Ариэль Шарон категорически отказывается поручать контроль над территориями «голубым каскам». Впрочем, палестинцы не надеются на то, что международное сообщество пойдет на открытое противостояние с израильским руководством, и больше рассчитывают на традиционные методы борьбы. Начальник штаба движения «Фатх» (одной из лояльных к евреям боевых организаций) в Иудее и Самарии Хусейн А-Шейх заявил, что «израильтяне ответят за Дженин», и пригрозил тотальным террором против израильских граждан, заметив, что соответствующие распоряжения уже отданы.

После захвата Дженина миссия главы израильского МИДа Шимона Переса, которому Шарон разрешил вести переговоры со всеми представителями палестинского руководства, исключая Ясира Арафата, стала невероятно сложна. Если Шарон и согласится на временное прекращение огня, то палестинцы, традиционно менее сговорчивые и управляемые, все равно отреагируют на захват Дженина терактами и обстрелами еврейских поселений, провоцируя новый виток конфликта.

Военные аналитики предсказывают, что полномасштабная арабо-израильская война начнется не позже чем через полгода. Самый же ранний срок – сентябрь. В боевые действия окажутся втянутыми соседние арабские государства: Египет, Иордания, Ирак и другие.

Выводы основаны на следующих фактах. Египетский президент Хосни Мубарак уже не раз говорил, что не в состоянии противиться силам, требующим, чтобы Египет оказал помощь палестинцам. На начало следующего месяца как раз намечены учения Третьей египетской армии в районе Суэцкого канала. Очевидно, израильтяне вполне допускают возможность переброски этих войск на Синайский полуостров, поэтому блокада сектора Газа всегда начинается с отсечения территории от Египта танковым кордоном. Недавние переговоры Китая и Сирии завершились договоренностями о поставках сирийской оборонной промышленности технологий и компонентов для создания баллистических ракет, причем, по некоторым данным, такие же поставки Китай будет делать и другим ближневосточным государствам. Ирак якобы готов перебросить на помощь палестинцам 6 миллионов солдат и боевиков, для чего просил граничащие с Палестинской автономией арабские государства «предоставить коридор». В довершение всего действующая в Ливане террористическая организация «Хезболлах» заявляла о солидарности с палестинской интифадой и готовности забрасывать вглубь Израиля своих боевиков для совершения терактов. Впрочем, не исключено, что однозначный вывод, который делают российские военные аналитики, преследует корыстные цели. На сентябрь намечена встреча Ариэля Шарона с Владимиром Путиным в Москве, и при угрозе полномасштабной войны на Ближнем Востоке Россия вполне может рассчитывать на выгодный контракт с Израилем о поставках вооружений.

**Анатолий ГОЛЬДОНСКИЙ**



# В кольце неравнодушных – резиденция Лукашенко

**22 августа в 17.00 ты можешь лежать на диване — ведь это не твоего мужа похитил «эскадрон смерти».
22 августа в 17.00 ты можешь уехать на дачу — ведь это не твой отец скоропостижно умер при загадочных обстоятельствах.
22 августа в 17.00 ты можешь пить пиво с друзьями — ведь это не твоего сына бросили за решётку потому, что он не хотел стоять на коленях.**

**Но уверены ли вы, что этого не произойдёт с ними завтра или через год?**

Кольцо неравнодушных людей вокруг резиденции Лукашенко — это мероприятие для тех, кто хочет жить в нормальной, цивилизованной стране, где людей за их взгляды не бросают в тюрьму, где претендентов на президентский пост не похищают и не убивают.

Мероприятие не требует специального разрешения властей. Приди и встань рядом с Людмилой Карпенко, Татьяной Климовой, Ольгой Григорьевной Завадской, Светланой Завадской, Ириной Красовской ...

## График проведения «Цепи неравнодушных городов» в рамках кампании «Хотим знать правду!»:

15 августа, Брест, ул.Советская, 18.00-19.00.
15 августа, Островец, Центральный рынок, 12.00 -13.00.
16 августа, Гродно, Советская пл., 17.00.
17 августа, Гомель, универмаг «Гомель» и ул.Советская, с 18.00.
18 августа, Новолукомль, 9.00-10.00, рынок.
22 августа, Минск, 17.00-18.00, вокруг резиденции Лукашенко, К.Маркса,38.
22 августа, Витебск, 19.30-20.00, Привокзальная площадь.
22 августа, Ошмяны, 17.00-18.00, площадь Дома Советов.
29 августа, Витебск, 19.30-20.00, Привокзальная площадь.

# ХОТИМ ЗНАТЬ ПРАВДУ


**Анатолий Майсеня:** несчастный случай или спланированная катастрофа?


**Геннадий Карпенко:** скоропостижная смерть или политическое убийство?


**Юрий Захаренко:** исчезновение или политический терроризм?


**Виктор Гончар:** исчезновение или устранение конкурента?


**Анатолий Красовский:** исчезновение или организованное похищение?


**Дмитрий Завадский:** исчезновение или организованное похищение?


**Андрей Климов:** экономическое правонарушение или политическая расправа?


**Валерий Щукин:** уголовное преступление или политическая расправа?























# КОЛЬЦО НЕРАВНОДУШНЫХ ЛЮДЕЙ ВОКРУГ РЕЗИДЕНЦИИ ЛУКАШЕНКО

**Среда, 22 августа, 17.00 - 18.00**

# ВСТАНЬ РЯДОМ!

## Вобшук без гаспадара

13 жніўня, прыкладна а 18-й гадзіне, супрацоўнікі Упраўлення КДБ па Гомельскай вобласці зрабілі вобшук у доме, які належыць на правах прыватнай уласнасці старшыні гомельскага абласнога грамадскага аб'яднання «Грамадзянскія ініцыятывы» Віктару Карнеенку.

У дом увайшлі прыкладна 20 чалавек у цывільным. Яны прад'явілі ордэр на вобшук, падпісаны пракурорам Гомельскай вобласці Алегам Палавінкам. Як высветлілася, вобшук праводзіўся ў рамках крымінальнай справы, узбуджанай абласным упраўленнем КДБ па фактах апаганьвання будынкаў у горадзе антыпрэзідэнцкімі лозунгамі. Крымінальная справа была ўзбуджаная 9 жніўня па арт. 341 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Пры вобшуку прысутнічалі двое прадстаўнікоў «Грамадзянскіх ініцыятываў» і адзін прадстаўнік адміністрацыі Чыгуначнага раёна Гомеля, дзе размешчаны дом. Усіх астатніх членаў арганізацыі супрацоўнікі КДБ папрасілі пакінуць памяшканне.

Як адзначылі члены «Грамадзянскіх ініцыятываў», тое следчае дзеянне, якое праводзяць супрацоўнікі КДБ, незаконнае, паколькі адсутнічае гаспадар дома. 13 жніўня Віктар Карнеенка знаходзіўся ў камандзіроўцы ў Мінску.

**Ірына ШАНЦАВА**

## Перадачы для Шчукіна не бяруць

Нягледзячы на тое, што Мінаблвыканкам забараніў Маладому Фронту правядзенне прабегу ў падтрымку Валерыя Шчукіна, які адбывае трохмесячнае зняволенне ў Жодзінскім СІЗА, ён усё роўна адбыўся. Праўда, маладафронтаўцы накіраваліся ў Жодзіна цягніком.

Як паведаміла прэс-служба МФ, у Жодзінскім СІЗА перадачу з харчамі і прэсай не прынялі, матывуючы гэта тым, што ў бягучым месяцы ён ужо атрымаў адну перадачу, а на другую права не мае. Пасля гэтага сябры МФ наладзілі пікет у 50 метрах ад будынка СІЗА каля плоту з надпісам «Свабоду Шчукіну!»

Праз колькі часу пікет перарвалі міліцыянты, затрымаўшыя дзесяцёх маладафронтаўцаў. Усіх іх пратрымалі ў пастарунку гадзіну і выпусцілі.

**Кірэй МАНУЙЛА**

## Дубінкавая прафілактыка

У суботу 11 жніўня каля мінскага кінатэатра «Салют» адбылося масавае затрыманне і збіццё моладзі, якая прыйшла сюды на дыскатэку.

Як распавядаюць відавочцы, прыкладна а 23-ай гадзіне да кінатэатра пад'ехаў аўтобус, з якога выбеглі спецназаўцы, частка з маскамі на пысах. Яны адразу накінуліся на тых, хто стаяў на вуліцы перад кінатэатрам, хапалі іх і цягнулі ў аўтобус. Усяго такім чынам было затрымана каля двух дзесяткаў хлопцаў, якія хацелі гэтым вечарам патаньчыць.

У аўтобусе на затрыманых раўлі і прымушалі станавіцца на калені. Тых, хто адмаўляўся гэта зрабіць, пачыналі жорстка збіваць. Усіх схопленых каля «Салюта» адвезлі ў Ленінскі РАУС сталіцы, дзе складалі пратаколы, з якіх вынікала, што маладыя людзі былі п'яныя і мацюкаліся.

Як моладзь ходзіць на дыскатэкі, вядома, таму досыць верагодна, што каля кінатэатра «Салют» увечары 11 жніўня насамрэч нехта з дзецюкоў стаяў нападпітку. Але ж відавочцы цвердзяць, што байцы спецназа затрымлівалі ўсіх, хто знаходзіўся там, без разбору.

На нашае тэлефанаванне ў Ленінскім РАУСе дзяжурны адказаў, што ні пра што падобнае тут не ведаюць. Між тым, па інфармацыі НАШАЙ СВАБОДЫ, такія сілавыя акцыі будуць праводзіцца «дзеля прафілактыкі» падчас маладзёжных тусовак, чым бліжэй прэзідэнцкія выбары, тым часцей.

**Алесь КАТОВІЧ**

# На оккупированных территориях

## Сопротивление на Беларуси в 1941-1944 годах

*Российский аналитический журнал «Коммерсантъ-Власть» поместил в нескольких своих номерах неизвестные документы о том, что происходило во время Второй мировой войны на территории Беларуси, в частности, материалы о некоторых аспектах партизанской и подпольной борьбы.*


Колхозники оказались виноваты и перед своими, и перед немцами


Партизаны ведут предателя


Гитлеровцы казнят партизан

### «Неподготовленными оказались и беспартийные, и комсомольцы, и коммунисты»

Совершенно секретно

**Краткий отчет о работе Могилевского «Комитета содействия Красной Армии» за период от сентября 1941 г. по 10 марта 1943 г.**

...Большинство молодежи не осознавало в первые месяцы оккупации того, что немецкие фашисты являются ее смертельными врагами, смертельными врагами ее родины.

Однако, несмотря на очень трудные условия для нелегальной работы, в отдельных местах города делались попытки создания небольших групп, объединяющих и молодежь, и людей старшего возраста. Но почти все эти стихийно образовывающиеся группы и группки просуществовали только несколько дней или недель и были уничтожены немцами в результате сплошной провокации и отсутствия у организаторов знания самых элементарных правил нелегальной работы... Оказались почти одинаково неподготовленными и беспартийные, и комсомольцы, и коммунисты, и командиры Красной Армии, и работники НКВД...

В таком же положении оказался и я. Поэтому мне пришлось действовать очень осторожно. Уже в августе 1941 г. я постарался встретиться со многими моими знакомыми и изучить их настроение. Это были учителя и учащиеся старших классов. Среди них я нашел несколько человек, которые оказались... пригодными для создания организации.

Учитывая создавшуюся обстановку и причины провалов нелегальных групп, были установлены следующие принципы создания нелегальной организации:

1. В основном судить о людях не по их довоенной характеристике, а по их поведению... в военное время.

2. Подбирать людей не просто только советских, а умных, способных, смекалистых, неболтливых, осторожных, имеющих хорошие связи, большое знакомство и т.д...

4. Подобрать часть людей, имеющих некоторые данные, которые могут быть использованы для маскировки (род работы, происхождение, судимость и др.) при условии, если они, безусловно, советски настроены...

8. Не устраивать никаких собраний. По различным трудным вопросам работы советоваться с отдельными более крепкими товарищами, учитывать дельные предложения всех членов организации, больше не допускать никакой демократии...

К декабрю месяцу 1941 г. организация достигла примерно 50 человек...

### «Невероятная дороговизна на базаре восстанавливала население против немцев»

За период с сентября 1941 г. по май 1942 г. в настроении населения города произошли значительные изменения. На это повлияли, кроме других, следующие факты:

1. В первые месяцы оккупации немцы физически уничтожили всех евреев. Этот факт вызвал много различных рассуждений. Самая реакционная часть населения, сравнительно небольшая, полностью оправдывала это зверство и содействовала им в этом. Основная обывательская часть не соглашалась с такой жестокой расправой, но утверждала, что евреи сами виноваты в том, что их все ненавидят, однако было бы достаточно их ограничить экономически и политически, а расстрелять только некоторых, занимавших ответственные должности. Остальная часть населения – советски настроенная – сочувствовала и помогала евреям во многом, но очень возмущалась пассивностью евреев, так как они отдавали себя на убой, не сделав ни одной, хотя бы стихийной попытки выступления против немцев в городе или массового ухода в партизаны. Кроме того, и просоветски настроенные люди отмечали, что очень многие евреи до войны старались устроиться на более доходные и хорошие служебные места, установили круговую поруку между собой, часто позволяли нетактичное отношение к русским, запугивая привлечением к ответственности за малейшее выступление против еврея и т.д. «И вот теперь евреи тоже ожидают помощи от русских Иванов, а сами ничего не делают», – говорили они.

Общий же вывод у населения получился таков: как бы немец не рассчитался со всеми так, как с евреями...

2. Вскоре зверское обращение с русскими военнопленными и массовая их гибель в лагерях подтвердили такое предположение и вызвали большое озлобление против немцев и среди значительной обывательской части.

3. Грубое обращение, избиение резиновыми палками, расстрелы и виселицы возбуждали среди населения ненависть, толкали многих на активные выступления против немцев.

Характерен такой момент:

В ноябре 1941 г., когда были повешены 4 человека, немцы согнали значительную часть населения на площадь, а весной, когда были повешены 3 человека, на площадь собралось незначительное количество зрителей, главным образом дети. Из 3-х человек два перед повешением сумели обратиться с призывом к населению усилить борьбу с немецкими захватчиками. На население это произвело очень сильное впечатление, в результате чего немцы не решились в дальнейшем строить в Могилеве виселицу.

4. Голод, невероятная дороговизна на базаре, спекуляция немцев, грабежи и т.д. – все это восстанавливало население против них.

5. Победы Красной Армии и неудачи немцев на фронте показали, что война Советским Союзом не проиграна, и это подняло дух советских людей...

В этот период наша организация продолжала расти и крепнуть. К маю месяцу 1942 г. она достигла 120–150 человек. В марте 1942 г. удалось достать печатную машинку. С апреля 1942 г. мы начали систематически издавать листовку под названием «За Родину». По моему предложению наша организация была названа «Комитетом содействия Красной Армии»... Были установлены два основных радиоприемника, и систематически два раза в неделю почти стенографически записывались сводки Совинформбюро и некоторые военно-политические обзоры. Эти сводки и обзоры также помещались в нашей листовке...

### «При Минском и Борисовском гестапо были открыты курсы для евреев»

Упоминание о неразберихе в партизанских отрядах было отнюдь не самым интересным из того, что нашлось в документах о партизанах. Совершенно неожиданным были неоднократные упоминания о том, что в качестве агентов, засылаемых немцами в отряды, использовались евреи. К примеру, в составленной в 1942 г. начальником Разведывательного управления Центрального штаба партизанского движения Аргуновым «Справке о провокационных методах борьбы с партизанами», в частности, говорилось: «Для забрасывания в партизанские отряды в качестве разведчиков немцы используют евреев, надеясь на то, что партизаны, зная, что немцы евреев жестоко преследуют, будут оказывать им больше доверия... Немецкая разведка... особо красивых женщин и девушек снабжает ядовитыми веществами с задачей влиться в отряд, войти в доверие командного состава и потом производить отравление».

10 августа 1943 г. командир Осиповичского партизанского соединения Королев докладывал в Москву: «В последнее время гестапо использует евреев в целях шпионажа. Так, при Минском и Борисовском гестапо были открыты 9-месячные курсы для евреев. Шпионы рассылались по квартирам в городе и засылались в партизанские отряды, последние снабжались отравляющими веществами для отравления партизан и командиров. В Минской зоне был разоблачен целый ряд таких шпионов».

Судя по отчету Мэттэ, отношение к евреям со стороны населения оставляло желать много лучшего. Во всяком случае, ни о каком особом доверии к ним говорить не приходилось. Неужели немцы этого не знали? Другие документы показывают, что ошибались не они, а партизанские командиры.

**ПІСЬМЕННАСЦЬ**

## На прашпекце Скарыны







Фота Ул. ШЛАПАКА

Ужо некалькі тыдняў, як на галоўным праспекце сталіцы – Францішка Скарыны – мяняюць старыя шыльды з ягонай назвай на новыя. Неблагая справа, але на шыльдах гэтых чамусьці напісана не «праспект», а «прашпект».

Такое веданне літаратурнай беларускай мовы ў Мінгарвыканкаме, нават ва ўпраўленні культуры, якое мусіць наглядаць за пісьменнасцю ў шыльдавых назвах горада, не можа не засмучаць. Можна толькі здагадвацца, чым кіраваліся спрэс рускамоўныя мінскія чыноўнікі. Відаць, спрацавала такая памылковая перакладная аналогія: калі рускі «паспорт» – гэта беларускі «пашпарт», значыць, рускі «проспект» – гэта беларускі «прашпект».

З'явілася пакуль што ўсяго некалькі «прашпектавых» шыльдаў. Праўда, невядома, ці з тае прычыны, што заўважылі памылку? Бо калі так, то чаму ў цэнтры сталіцы менчукі і госці сталіцы дагэтуль чытаюць, што яны ідуць па «прашпекце Скарыны». Ці гэта дэманстрацыйны здзек з беларускай мовы?

**Мар'ян КАРЫМОНТ**

## Калі памірае мова...

Колькасць моваў у сьвеце няўхільна зьмяншаецца: глябальная цывілізацыя толькі прысьпешвае гэты працэс, — канстатуе ў сваёй штогадовай справаздачы незалежная дасьледчая арганізацыя *Worldwatch Institute*. Паводле падлікаў спэцыялістаў *Worldwatch Institute*, сёньня ў сьвеце існуе каля 6.800 моваў. Пры гэтым, вучоныя прагназуюць, што к канцу XXI ст. больш як палова зь іх зьнікне. Устаноўлена, што ў нашыя дні выміраньне моваў адбываецца з хуткасьцю аднае мовы за два тыдні.

Згодна з ацэнкамі экспэртаў ЮНЭСКА, сама мала 100 тысяч чалавек павінна карыстацца моваю, каб ёй быў гарантаваны пераход з пакаленьня ў пакаленьне. Існуе 15 моваў, на якіх гаворыць паўсьвету, — сьцьвярджае *Worldwatch Institute*. У ліку першых зь іх — кітайская, ангельская, гіндзі й гішпанская. Ангельская, пануючы ў камэрцыі й попкультуры, заваёўвае прастору нашмат хутчэй за ўсе іншыя мовы. Насёньня ангельскую лічаць роднай моваю 320 мільёнаў чалавек. Для яшчэ большай колькасьці людзей яна ўжо стала асноўнай замежнай моваю.

Прадстаўнік Фонду падлеглых выміраньню моваў Нікалас Остлер канстатуе: усякія бар'еры для ангельскае мовы зьнікі з пашырэньнем інтэрнэту: «Ангельская пашыраецца ў межах краін — нават ня толькі ў дачыненьнях паміж краінамі — менавіта ў межах краін, дзе гэтая мова ня мае аніякай традыцыі, напрыклад, у Этыёпіі, Самалі й Аб'яднаных Арабскіх Эміратах. У такіх краінах ёсьць мноства малых моваў, і пашырэньне ангельскае ім, безумоўна, ідзе на шкоду».

Малыя мовы вымiраюць. *Worldwatch Institute* прыпамінае некаторыя з тых, што могуць зьнікнуць у найбліжэйшым часе. Да прыкладу, мова арыкапу, на якой сёньня гаворыць усяго адзін чалавек — 83-гадовая Мэр'е Сьміт з Анкорыджу на Алясцы. На думку супрацоўніка ўнівэрсытэту Ўэльсу Дэвіда Крыстала, захаваць мовы жывымі — клопат найпершае важнасьці: «Каб нашае мысленьне разьвівалася, патрэбная разнастайнасьць. А кожная мова — гэта ўнікальны спосаб бачаньня сьвету. Сьвет — гэта мазаіка ўяўленьняў пра яго. І кожная мова — аськепак гэтае мазаікі. Таму сьмерць мовы — вялізная, непапраўная страта. Як зьнікненьне віду — толькі не біялягічнага, а інтэлектуальнага».

**Пётра КАМІНСКІ, Радыё «Рацыя»**

**ДЗІВАКІ**

## Ветэран прэзідэнцкіх кампаніяў

Калі два месяцы таму стала вядома, што ў Цэнтрвыбаркаме ў якасці прэтэндэнтаў у кандыдаты на прэзідэнта зарэгістравана болей двух дзесяткаў асобаў, прычым некаторыя былі досыць экзатычныя, многія міжволі падумалі, што не хапае яшчэ графа Аляксандра Прушынскага, які багата надзіваваў падчас прэзідэнцкай кампаніі 1994 года. Але, аказваецца, гэты беларус з Таронта пэўным чынам бярэ ўдзел і ў сёлетніх прэзідэнцкіх выбарах.

Днямі давялося сустрэць яго падчас шпацыру па Лошыцкім парку. Аляксандр Прушынскі адразу нагадаў, каму мусіць належаць маёнтак у Лошыцы (калісьці ім валодалі продкі Прушынскага). Але пакуль ён марыць пра закон аб рэстытуцыі і наракае на тое, што справа рэстаўрацыі Лошыцкай сядзібы ніяк не можа зварухнуцца з мёртвай кропкі. Абыякавай дзяржаве па ўсім гэта не трэба, але і сам граф Прушынскі раскашэльвацца на ахвяраванні, каб добраўпарадкаваць Лошыцу, здаецца, не збіраецца.

Збольшага ён заняты выбарамі, яго можна нават залічваць у ветэраны прэзідэнцкіх кампаніяў у Беларусі. Праўда, сёлета Аляксандр Прушынскі не такі актыўны, як тое было 7 гадоў таму. Але трохі ўлётак ён надрукаваў.

У іх Прушынскі цвердзіць, што на беларускія рэформы па змяншэнні беспрацоўя, падвышэнні пенсіяў, паляпшэнні аховы здароўя, павелічэнні аб'ёмаў будаўніцтва патрэбна 5,5 мільярда рублёў. Граф сумняваецца, што кандыдаты ў прэзідэнты знойдуць такія сродкі, а ён ведае, дзе і як узяць гэтыя грошы.

Аляксандр Прушынскі («адзіны, хто імкнецца да пасады прэзідэнта не дзеля ўлады, каб соладка жыць, таму што маю канадскую пенсію ў 15 разоў большую, чымсьці сярэдняя зарплата ў Беларусі, і ў 6 разоў больш за афіцыйны даход Лукашэнкі») абяцае, што ўжо праз 90 дзён пасля абрання на пасаду прэзідэнта кожны поўнагадовы грамадзянін Беларусі атрымае да заробку па 50 долараў. А можа нават «і больш, па 103 альбо 150 долараў».

У якасці прыкладу для беларусаў ён прыводзіць факты, што літоўцы абралі сабе на прэзідэнта земляка з Чыкага, а латышы – латышку з Манрэаля. Таму ён заклікае пісаць на бюлетэнях для галасавання слова «граф»!

**Кірэй МАНУЙЛА**

## Запрет на клонирование людей

Францией и Германией внесено предложение рассмотреть на Генеральной Ассамблее ООН вопрос о разработке международной конвенции, запрещающей клонирование людей с целью воспроизводства. По сообщению представителя международного отдела, это предложение будет рассмотрено комитетом ООН.



«Правительства Германии и Франции выступили с предложением о том, чтобы в повестку дня ближайшей Генеральной Ассамблеи — т.е. 56-й сессии Ассамблеи, которая начнет свою работу в сентябре, — был включен вопрос о клонировании людей, поэтому я не сомневаюсь, что в ближайшие недели мы станем свидетелями развития дискуссий на эту тему», — сообщил, отвечая на запросы, представитель отдела Альмеда де Сильва.

Когда вносится предложение о включении какого-либо вопроса в повестку дня Генеральной Ассамблеи, то оно поступает на рассмотрение в Генеральный Комитет Ассамблеи, заседание которого происходит в начале очередной сессии, после чего Комитет выносит на пленарное заседание свои рекомендации о том, какие пункты должны быть включены в повестку дня.

Г-н Альмеда де Сильва отметил, что в 1999 г. Ассамблеей была принята Всеобщая декларация о человеческом геноме и правах человека, которая за два года до этого была одобрена Генеральной конференцией организации по образованию, науке и культуре ООН (ЮНЕСКО). В этой декларации, в разделе, посвященном научным исследованиям, говорится: «мы не допустим внедрения практик, вступающих в противоречие с человеческим достоинством, — таких как репродуктивное клонирование человеческих существ».

Представитель также напомнил, что в 1997 и 1998 гг. на Всемирной ассамблее по здравоохранению — ежегодной встрече государств-членов Всемирной организации здравоохранения (ВОЗ), также были приняты резолюции по этому вопросу, в которых утверждается, что «применение клонирования с целью воспроизводства человеческих существ неприемлемо с точки зрения этики и противоречит неприкосновенности человеческой личности и человеческой морали».

В ответ на просьбу прокомментировать возможность внесения такого пункта в повестку дня Ассамблеи сотрудник ВОЗ д-р Виктор Бульенков сообщил Радио ООН, что в резолюции ВОЗ по вопросу клонирования «ясно говорится, что как минимум репплицирование человеческих существ является недопустимым». Он также добавил, что ВОЗ потребуется созвать экспертное совещание, чтобы уточнить свою позицию по этому вопросу.

**КВАЛІФІКАЦЫЯ**

## Медалі легкаатлетаў

Адзін залаты і тры сярэбраныя медалі заваявалі беларускія спартсмены на прайшоўшым у Эдмантане (Канада) чэмпіянаце свету па лёгкай атлетыцы.

Залаты медаль на рахунку чэмпіёнкі сіднейскай Алімпіяды ў штурханні ядра Яніны Карольчык (яе вынік — 20 метраў 61 сантыметр). Сярэбраныя медалі заваявалі яшчэ адна чэмпіёнка Сіднея Эліна Зверава (кіданне дыска, вынік — 67 метраў 10 сантыметраў), а таксама Валянціна Цыбульская (хадзьба на 20 км, 1 гадзіна 28 хвілінаў 49 секундаў) і Наталля Сазановіч (сямібор'е, 6.539 ачкоў).

У агульнакамандным медальным заліку Беларусь заняла 11-е месца. На першай пазіцыі размясціліся амерыканцы (9 залатых, 5 сярэбраных і 5 бронзавых узнагародаў) і расіяне (6 залатых, 7 сярэбраных і 6 бронзавых).

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

# Китай и его враги

*«Кто наши враги? Кто наши друзья?» – вопрошал Мао Цзэдун еще в 1926 году.*



Боязнь врагов и потребность в их уничтожении остается непреодолимым желанием наследников Мао. Этим и объясняется лишение ими свободы членов крохотной Демократической партии, преданных Риму католиков, протестантов, буддистов и мусульман, которые сопротивляются контролю со стороны патриотической церкви партии, притеснению Тибета и преследованию миллионов приверженцев религиозного течения Фалун Гонг.

Пекинские лидеры оправдывают эти гонения, связывая предполагаемых внутренних врагов с «внешними силами», стремящимися свергнуть коммунистическое правление посредством «войны без дыма и огня». При этом заявляется, что если они не смогут раздавить своих врагов, то непрочная стабильность Китая пошатнется, и страна будет ввергнута в хаос.

Этот страх заражает и экспертов по современному Китаю. Взрыв бомбы в каком-нибудь городе или крестьянский бунт служит поводом для того, чтобы эти специалисты всколыхнули интернет вопросами о том, не угрожает ли эта бомба или этот бунт выживанию Коммунистической партии.

Никто не объяснит страха, испытываемого режимом за свою стабильность, и практики преследований врагов лучше, чем Ли Биньян, знаменитый китайский следственный репортер, политический заключенный в течение 22 лет, бывший член партии, ныне живущий в изгнании в США, где он преподает в Принстонском университете. «На самом деле, — говорит Ли, — что разрушает единство и стабильность – так это собственные политические действия руководства... Они сделали так, что китайский народ теряет доверие к социалистической системе и уверенность в будущем нации... Некоторые люди занимаются самосудом... ружейные выстрелы, подкладывание бомб, поджоги и крушения поездов на железных дорогах – это форма мести за обиженных и угнетенных».

Многие иностранцы замечают, что Китай больше не является местом постоянных маоистских преследований. Они говорят о том, как горячо их знакомые и таксисты ругают режим, в том числе коррупцию среди вождей и их отпрысков. Огромные потоки публикаций, в том числе порнографии, приводятся как свидетельство свободы печати. Однако до сих пор не разрешено ничего такого, что могло бы считаться организованным сопротивлением режиму – особенно если дело касается Соединенных Штатов, порицаемых как источник «буржуазного либерализма», которого правительство боится больше всего.

Корни этой «охоты на врагов» уходят в то время, когда в 1921 г. при помощи направляемого Москвой Коминтерна была официально создана Коммунистическая партия Китая. Это привело к моментальному заражению партии ярой ленинско-сталинской убежденностью (от которой так и не удалось избавиться), что врагов надо уничтожать, и если не убивать, то заставлять исчезнуть без следа.

В Шанхае посетителям здания, где, как говорят, создавалась партия, показывают фальсифицированные фотографии, на которых убраны основатели, ставшие впоследствии предателями. На фотографиях похорон Мао первоначально была показана его вдова в трауре, но в течение нескольких недель с момента ее ареста как члена «банды четырех» эти фотографии были переизданы, и на них вдова и остальные члены «банды» уже были заретушированы таким образом, что от них не осталось и следа. В разные времена Мао и Дэн Сяопин, ставшие впоследствии национальными вождями, рассматривались партийными товарищами как враги партии. Дэн пережил три таких чистки, две из них устроил сам Мао.

Еще в самом начале своего правления, когда он согласился возглавить партию в начале 1930-х годов, Мао обнаружил вкус к крови своих противников. Оставшиеся в живых, особенно вдовы тех, кого казнили как контрреволюционеров, вспоминают о страхе, который они испытывали, находясь в его партизанской штаб-квартире в Яньане. По словам историка партии Дай Кинга, в течение всех тех лет вплоть до победы в 1949 году, предполагаемых врагов Мао обвиняли в троцкизме — удобная мотивировка, унаследованная от Сталина, -- и расстреливали, обезглавливали или закапывали заживо сотнями.

После триумфа партии в 1949 году охота на врагов упорно продолжалась с проведением успешных кампаний против частных собственников, «правых», «вонючей интеллигенции», «приспешников капитализма» и, наконец, миллионов «противников Мао», с которыми боролись во время «культурной революции» 1966-1976 годов. Исследуя это десятилетие в жизни Китая, вряд ли можно было бы найти школу, в которой ученики не истязали бы и не убивали своих учителей.

В 1989 году появился Тяньаньмынь, или, скорее, почти сто Тяньаньмыней по всему Китаю, где граждане потребовали небольших реформ. Десятки, если не сотни тысяч людей по всей стране были арестованы. Правительство до сих пор считает полупреступниками родителей тех студентов, которые были застрелены на площади Тяньаньмынь.

Во время «культурной революции» Мао учредил комитет по борьбе с теми, кто «противостоит Председателю». Этим комитетом были «проверены» сотни членов политбюро, центрального комитета, партийной верхушки и, наверное, около двух миллионов жителей Китая. Каждое их действие во время нахождения в тюрьме записывалось. Согласно официальным документам, в число этих действий входили: «поднимание ног, поднятие рук, принятие пищи, питье, испражнение, мочеиспускание, скрежетание зубами ... отрыжка, смех, вздохи... разговор во сне».

На заседаниях комитета председательствовал премьер-министр Чжоу Эн Лай, которого некогда считали единственным праведником партии. Спустя тридцать пять лет никто, за исключением узкого круга партийных коррупционеров, не уважает коммунистическую партию; но после десятилетий жестокого и зачастую кровавого обращения партии с «контрреволюционерами» и «классовыми врагами» китайский народ имеет все основания ее бояться. С экономической системой Мао уже, возможно, покончено, но его поиски врагов – дома и заграницей – продолжаются с прежней настойчивостью.

**Джонатан МИРСКИ**
**© Project Syndicate**

# Лыжка допінгу ў бочцы мёду

Не паспелі беларускія лёгкаатлеты вярнуцца дамоў з чэмпіянату свету ў канадскім Эдмантане, дзе яны заваявалі адзін залаты і чатыры срэбраныя ўзнагароды і занялі 11-е агульнакамандное месца, як следам прыйшла непрыемная вестка: беларусы спажываюць допінг!

Дакладней кажучы, гэтая скандальная навіна была ўжо вядомая ў апошні дзень спаборніцтваў. «Гераіняй» стала 25-гадовая бягуння з Пінска Наталля Салагуб, у чыёй крыві двойчы, у пробах «А» і «Б», быў знойдзены забаронены для ўжывання норандрастэрон, які з'яўляецца вытворным анабалічнага стэроіду нандралону.

У час правядзення чэмпіянату было зроблена 250 допінг-тэстаў, і толькі двойчы іх вынікі аказаліся станоўчымі: акрамя Салагуб, «папалася» таксама румынская кідальніца кап'я Ана Тэрмурэ.

Віноўніца здарэння выходзіла на старт у Канадзе ў дзвюх дысцыплінах. Яна бегла 400 метраў асобна і ў эстафеце, дарэчы, адзінай, у якой удзельнічалі беларускія атлеты. У першым выпадку Наталля завяршыла спаборніцтвы на стадыі паўфіналу, дзе была толькі чатырнаццатай, а разам з сяброўкамі па камандзе трапіла ў паўфінал. Вось тут і грымнуў гром: трэнеры вымушаныя былі тэрмінова шукаць замену, адхіліўшы ад старту Салагуб, адну, дарэчы, з мацнейшых беларускіх бягухаў, удзельніцу Алімпійскіх гульняў у Сіднеі, паўфіналістку зімовага сусветнага першынства гэтага года ў Партугаліі.

Вельмі напружанай склалася атмасфера вакол фінальнага забегу жанчын на 5.000 тысячаў метраў, пераможцам якога стала расіянка Вольга Ягорава. Справа ў тым, што менавіта яна была раней улічаная ў прымяненні анаболікаў, дыскваліфікаваная. Расіяне падалі пратэст, вырашылі даказаць існаванне памылкі, і, нечакана, Ягораву апраўдалі. Яе галоўная саперніца, Габрыэла Саба з Венгрыі, была не згодная з такім рашэнням і ледзь не выйшла на старт. Абышлося... Чэмпіёнкай стала Ягорава, Саба прыбегла толькі восьмай. Але цікава было назіраць за паводзінамі гледачоў дый саміх удзельніцаў забегу. Канадцы ўвесь час свісталі, быццам ганьбячы Вольгу; паразу Саба, наадварот, сустрэлі апладысментамі. Незвычайна павялі сабе і саперніцы. Толькі бронзавая прызёрка Айлеш Ворку з Эфіопіі павіншавала масквічку, астатнія нават не падалі рукі. Упершыню за ўсю гісторыю чэмпіянатаў уладальніца залатога медаля не зрабіла традыцыйнага кола гонару па стадыёне, а моўчкі схавалася пад трыбунамі...

Шчыра кажучы, мы ўжо неяк звыкліся з такімі вось маркотнымі паведамленнямі. Бадай кожны спартыўны сезон засмучвае нас падобнай інфармацыяй. На жаль, дыяпазон іх вельмі шырокі: якія толькі віды спорту ні трапілі ў «чорны» спіс. Я не кажу ўжо пра цяжкаатлетаў, што «пападаліся» цэлымі групамі на допінгу, некаторыя нават былі, што называецца, злоўленыя з доказамі злачынства, калі везлі на спаборніцтвы за мяжу забароненыя прэпараты. Мелі ў сваёй спартыўнай кар'еры «сутыкненне» з допінгам і абодва беларускія штангісты, алімпійскія чэмпіёны Аляксандр Курловіч і Леанід Тараненка. А калі ўзяць «незалежную» гісторыю беларускага спорту, прыкладаў можна знайсці мноства.

Прыгадаем толькі самыя «свежыя» факты. Перад сіднейскай Алімпіядай «засвяціліся» дзве беларускія вясляркі. Пакараннем стала дыскваліфікацыя на два гады. У самой Аўстраліі, за некалькі дзён да старту, не прайшоў допінг-кантроль кідальнік молата Вадзім Дзевятоўскі і вымушаны быў, нібы персона нон-грата, пакінуць у тэрмін у 24 гадзіны алімпійскую вёску. Прыгавор той жа самы – два гады без удзелу ў спаборніцтвах.

Не малую ролю ў выкарыстанні допінгу адыгрываюць у прафесійным спорце вялізарныя прызавыя грошы. Напрыклад, у тым жа Эдмантане пераможца атрымліваў 60 тысячаў долараў, срэбраны прызёр – сорак, бронзавы – дваццаць. Плацілі ўсім, хто здолеў трапіць у фінальную васьмёрку ў кожным відзе праграмы. Дарэчы, восьмы вынік «каштаваў» 4 тысячы. Па беларускіх паняццях, гэта немалая сума. Вось і насмельваюцца некаторыя спартсмены ісці на падман, не думаючы пра сваё здароўе. Шкада, што такія скандалы ўсё часцей закранаюць і беларускі спорт.

**Уладзімір ДАЎЖЭНКА**

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1747 Нумар падпісаны ў друк 14/08/2001 (15:00) Наклад — 9.410